№2 (165)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Студзень 2014 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**2013 год оказался провальным для белорусской промышленности.**

С начала года промпроизводство в Беларуси сократилось почти на 5%, гласят данные официальной статистики. Спад равнялся почти 700 трлн рублей.

Не многим лучше промышленности показало себя сельское хозяйство - здесь производство уменьшилось в сопоставимых ценах на 4%. При этом растениеводства – на 8,4%, животноводства – на 0,3%.

### У Прыдняпроўі

17 человек, в том числе и 4 ребенка, были эвакуированы ночью 16 января из-за пожара на первом этаже пятиэтажного дома по улице Фабричной в Шклове. Возгорание произошло в однокомнатной квартире, принадлежащей 55-летней пенсионерке.

### У раёне

11 студзеня 2014 года на пасаду першага намесніка начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання раённага выканаўчага камітэта назначаны Мікалай Буры, які раней узначальваў філіял Рэспубліканскага унітарнага сельскагаспадарчага прадпрыемства па племянной справе “Магілёўскае дзяржплемпрадпрыемства” па Бялыніцкім раёне. Месца начальніка філіяла па племянной справе заняў Генадзь Палоннікаў, які да гэтага часу працаваў кіраўніком групы па незаразлівых хваробах жывёл ветэрынарна-санітарнай установы “Бялыніцкая раённая ветэрынарная станцыя”.

14 студзеня 2014 года на пасаду старшыні СВК “Ількавічы” рашэннем агульнага сходу членаў сельскагаспадарчага вытворчагу кааператыву абраны Хайноўскі Дзмітрый Віктаравіч, які дагэтуль працаваў начальнікам планавага аддзела ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама, паведамляе інтэрнэт-сайт belynichi.gov.by.

## У БЯЛЫНІЧАХ ПАЧАЛАСЯ КАМПАНІЯ ПА ЗБОРУ ПОДПІСАЎ ЗА КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ

***У гарадскім пасёлку Бялынічы вечарам 14 студзеня адбыліся паседжанні акруговай камісіі Бялыніцкай выбарчай акругі №1 па выбарах дэпутатаў Магілёўскага абласнога Савета 27 склікання і Бялыніцкай раённай выбарчай камісіі па выбарах дэпутатаў Бялыніцкага райсавета.***




На пасяджэнні акруговай камісіі зарэгістраваная ініцыятыўная група па збору подпісаў за вылучэнне кандыдатам у дэпутаты Магілёўскага абласнога Савета актывіста кампаніі “Гавары праўду” Пятра Шымбалёва. Іншых прэтэндаў на рэгістрацыю ініцыятыўных груп на паседжанні акруговай камісіі 14 студзеня не было. Сябрам ініцыятыўнай групы былі выдадзены пасведчанні і неабходныя дакументы.

Згодна інфармацыі акруговай камісіі Бялыніцкай выбарчай акругі №1, па стану на 14-00 15 студзеня зарэгістраваная толькі ініцыятыўная група па збору подпісаў за вылучэнне кандыдатам у дэпутаты Пятра Шымбалёва. Іншыя прэтэндэнты стаць кандыдатамі ў дэпутаты пакуль ніякіх дакументаў у камісію не падавалі.

Бялыніцкая раённая камісія па выбарах дэпутатаў Бялыніцкага раённага Савета дэпутатаў 27 склікання 14 студзеня зарэгістравала 21 ініцыятыўную групу па збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты райсавета, паведамілі нашаму карэспандэнту ў выбарчай камісіі 15 студзеня. Сярод іншых камісія зарэгістравала і 4 ініцыятыўныя групы дэмакратычных прэтэндэнтаў у кандыдаты, большасць з якіх карыстаецца падтрымкай кампаніі “Гавары праўду”.

Будзе прадстаўнік Бялынiччыны вылучацца кандыдатам у дэпутаты Магілёўскага абласнога Савета і па Круглянскай выбарчай акрузе №27. Па Круглянскай выбарчай акрузе №27 дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы падаў бялыніцкі прадпрымальнік, актывіст кампаніі “Гавары праўду” Алег Мяцеліца. Па словах Алега Мяцеліцы, ён вырашыў вылучацца ў якасці кандыдата ў дэпутаты аблсавета ад Круглянскага раёна, бо ўсё яго дзяцінства

*(Заканчэнне на стар. 2)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# У БЯЛЫНІЧАХ ПАЧАЛАСЯ КАМПАНІЯ ПА ЗБОРУ ПОДПІСАЎ ЗА КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ

*(Заканчэнне. Пач. на стар. 1)*

прайшло ў адной з мясцовых вёсак, фактычна ён там і нарадзіўся. Да таго ж частка тэрыторыі Бялыніцкага раёна (Галоўчынскі і Ланькаўскі сельсаветы)на выбарах дэпутатаў Магілёўскага аблсавета ўваходзіць ў Круглянскую выбарчую акругу.

Што ж, можна толькі пажадаць поспеху гэтым мужным людзям – Алегу Мяцеліцу, Пятру Шымбалёву, Юрыю Зянькову і Якаву Лазоўскаму, - якія вырашылі балатавацца кандыдатамі ў дэпутаты Бялыніцкага райсавета і Магілёўскага аблсавета, і якія вераць у тое, што вынікі выбараў у нашым Бялыніцкім раёне і Магілёўскай вобласці не прадвызначаны загадзя.

Неабходна адзначыць, што я асабіста прытрымліваюся іншага меркавання і дакладна ведаю, што і Бялыніцкі райвыканкам, і Магілёўскі аблвыканкам прытрымліваецца іншай думкі, – там ужо складзены і зацверджаны спісы тых людзей, якія будуць “народнымі абраннікамі” ад нашага рэгіёна. Дай Бог, каб мая інфармацыя аказалася недакладнай, аднак тыя чытачы, якія рэгулярна чытаюць нашу газету, памятаюць, што мы заўсёды дакладна называлі прозвішчы будучых “народных абраннікаў” задоўга да правядзення выбараў розных узроўняў.

Ды і простыя бялынічане пра гэта выдатна ведаюць, бо часта мне кажуць: “Навошта патрэбны гэтыя выбары, каго прызначыць начальства, той і будзе дэпутатам. Тым больш, што дэпутаты мясцовых Саветаў практычна нічога не вырашаюць”.

Вымушаны пагадзіцца і з гэтай высновай маіх землякоў: дзеючы Бялыніцкі райсавет вызначыўся толькі тым, што аднагалосна галасаваў за любыя, самыя бязглуздыя, прапановы райвыканкамаўскіх чыноўнікаў. Пра што казаць, калі нашы слаўныя “слугі народа” два з лішкам гады не маглі абраць старшыню раённага Савета, бо не было адпаведнага загаду зверху. Так і працавалі, убогія, без кіраўніка, бо кіраўнік патрэбен




толькі там, дзе сапраўды нешта вырашаюць, а не толькі моўчкі падымаюць рукі…

Тое самае адбылося і ў Магілёўскім абласным Савеце: там, пасля сыходу Уладзіміра Панцюхова ў “парламент”, больш за год ужо няма старшыні абласнога Савета. І нічога, яго адсутнасці ніхто і не заўважыў, што ў нас Саветы вырашаюць…

А нічога не вырашаюць і не хочуць вырашаць таму, што абсалютную большасць у Саветах складаюць кіраўнікі розных рангаў, якія цалкам залежаць ад выканаўчай улады. Таму ўсе іх дэпутаты ціхенька сядзяць, як мышы пад веннікам, і паслухмяна падымаюць рукі за ўсе прапанаваныя “зверху” рашэнні, бо баяцца згубіць пасады і перастаць “хрюкать возле кормушки”, як вобразна сказаў Аляксандр Лукашэнка. Усе важныя пытанні вырашаюць выканкамы, а роля Саветаў зведзена да іх аўтаматычнага зацвярджэння.

Таму асабіста я ў гэтым пытанні цалкам падтрымліваю меркаванне маладога Аляксандра Рыгоравіча: нафіга нам гэтыя выбары, усё роўна падмануць.

Аднак, нягледзячы на гэта, я ўсё роўна ўвайшоў у ініцыятыўныя групы большасці незалежных прэтэндэнтаў у кандыдаты ў дэпутаты. Проста заўсёды застаецца надзея на тое, што нейкі цуд усё ж адбудзецца. І калі ўсё ж хоць адзін незалежны кандыдат патрапіць у райсавет ці аблсавет, то ён сапраўды зможа ўзнімаць там важкія для людзей пытанні, не палохаючыся таго, што ўзнікнуць праблемы ў асабістым жыцці. А там, глядзіш, і іншыя перастануць баяцца…

***Барыс Вырвіч***

## ЖИТЕЛЮ БЕЛЫНИЧЕЙ ЗАХОТЕЛОСЬ МЁДА

Как сообщает интернет-сайт УВД Могилёвского облисполкома, 9 января Белыничский районный отдел Следственного комитета возбудил уголовное дело по ст. 206 ч. 2 УК (Грабёж) в отношении 57-летнего неработающего жителя Белыничей. Мужчина, находясь дома у неработающего жителя деревне Стехово, открыто, с применение насилия похитил у него цифровую приставку и пол-литровую банку меда.

Похищенное изъято. Любитель мёда задержан в административном порядке.

## Мокровичский хулиган

2 января Белыничским районным отделом СК возбуждено у/д по ст. 147 ч. 1 УК (Умышленное причинение тяжкого телесного повреждения) в отношении неработающего жителя, 1994 г.р., а.г. Головчин Белыничского района, который 1 января около 16-30 на улице в д. Мокровичи указанного района, после совместного распития, в ссоре избил пенсионера, 1949 г.р., местного жителя, причинив ему тяжкие телесные повреждения. Задержан в порядке ст. 108 УПК.

# ЖЫХАР ЛЕБЕДЗЯНКІ ВЫЙГРАЎ СУД СУПРАЦЬ МІЛІЦЫІ, АЛЕ КАМПЕНСАЦЫІ НЕ АТРЫМАЎ

***Рашэнне адмовіць у кампенсацыі выдаткаў на адваката і дзяржпошліну прыняў Бялыніцкі суд.***

Валерый Вусік хацеў спагнаць з Бялыніцкага РАУС 2 мільёны 200 тысяч рублёў. Акрамя таго вясковец прасіў праіндэксаваць суму ў сувязі з пастаянным ростам коштаў. Распавядае Валерый Вусік:

"Я падаў заяву ў суд, каб мне кампенсавалі паслугі адваката і вярнулі дзяржаўную пошліну. Выйшаў новы закон, адпаведна з якім, калі я выйграю суд, то мне павінны кампенсавацца гэтыя выдаткі. Аднак і пракурор, і суддзя мне адмовілі ў гэтым у катэгарычнай форме. Сказалі, што закон "сыры", недапрацаваны і на практыцы такі прэцэдэнт створаны ўпершыню, таму яны вырашылі мне адмовіць. Я лічу, што з мяне незаконна ўтрымалі сродкі. Таму буду кансультавацца з адвакатам, што мне рабіць далей".

Вясковец адзначае, што ва ўсялякім разе збіраецца абскарджваць незаконнае, на яго думку, рашэнне раённага суда ў Магілёўскім абласным судзе. Справу каментуе праваабаронца Барыс Бухель:

"Суддзя адзначыла, што вярнуць дзяржаўную пошліну можна і без суда – трэба пісаць адпаведна з падатковым кодэксам заяву, аднак мы хацелі зрабіць індэксацыю гэтай пошліны, у чым нам было адмоўлена. А вось па аплаце выдаткаў на адваката аказалася, што няма механізму кампенсацыі сродкаў. Я пачаў спрачацца, як гэта так, у працэсуальна-выканаўчы кодэкс унеслі змены, і з'явілася магчымасць кампенсаваць выдаткі на адваката, а механізму няма дагэтуль. Суддзі прызналі, што такі суд адбываецца на Магілёўшчыне ўпершыню. Зараз будзем пісаць касацыю. Я быў шакаваны тым, наколькі недарэчныя прымаюцца законы, якія немагчыма рэалізаваць на практыцы".

Праваабаронца кажа, што ён з падобнымі судамі яшчэ не сутыкаўся і яму не вядомыя вынікі падобных рашэнняў у Беларусі. Ён падазрае, што падобная справа разглядалася ўпершыню не толькі на Магілёўшчыне, але і ў краіне ў цэлым.




Нагадаем, што 16 верасня суддзя Бялыніцкага раённага суда Аксана Загорская пастанавіла спыніць справу ў дачыненні да Валерыя Вусіка, адхіліўшы пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні, складзеныя міліцыянтамі яшчэ ў лютым гэтага года. Паводле іх Валерый Вусік здзейсніў паклёп на былога старшыню СВК "Лебядзянка" Пятра Бялова ў змешчаным у газеце "Магілёўскі Выбар", а таксама на інтэрнэт-сайце Zapraudu.info артыкуле "Што змянілася за апошнія некалькі гадоў у СВК "Лебедзянка". Таксама Вусіка абвінавачвалі ў парушэнні артыкула 17 Закона "Аб СМІ" пры распаўсюдзе газеты "Магілёўскі Выбар".

Па выніках разгляду гэтай адміністрацыйнай справы Валерый Вусік і падаў пазоў аб кампенсацыі панесеных выдаткаў.

Згодна інфармацыі журналістаў газеты "Паходня", 15 студзеня Валерый Вусік накіраваў касацыйную скаргу на рашэнне суда Бялыніцкага раёна ў Магілёўскі абласны суд.

***Вольга Міцкевіч,***
***"Еўрарадыё"***

## ЭКСПЕРТЫ ПРОГНОЗИРУЮТ КУРС В 11 ТЫС РУБЛЕЙ ЗА ДОЛЛАР К КОНЦУ ГОДА

В случае привлечения Беларусью необходимых объемов внешнего финансирования курс доллара к концу 2014 года может составить 11 тыс. рублей. Такая оценка содержится в макроэкономическом прогнозе на 2014 год, который подготовили эксперты Исследовательского центра ИПМ и Немецкой экономической группы в Беларуси (GET Беларусь).

"Если необходимый объем внешнего финансирования будет привлечен, то мы ожидаем, что среднегодовое значение обменного курса составит USD/BYR 10.250 (USD/BYR 11 тыс. на конец года). При этом мы прогнозируем и относительно умеренный рост цен на 14,9% в 2014 году. Однако при недостаточности внешнего финансирования изменения обменного курса и цен могут быть намного более масштабными", — говорится в макроэкономическом прогнозе.

Как считают эксперты, курс белорусского рубля переоценен, сообщает БелаПАН.

"К концу 2013 года перечень противоречий в целях и задачах монетарной политики проявляется достаточно ярко. Разрыв между текущим и равновесным значением реального эффективного обменного курса составляет от 5 до 20%", — отмечают экономисты.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ШКЛОЎСКІ «ВЕРТЫКАЛЬШЧЫК» НЕЗАКОННА ЗАКУПЛЯЎ КАРОЎ З СЕРБІІ

***Першы наместнік старшыні Шклоўскага раённага выканаўчага камітэта трапіўся на хабары.***

***Чыноўнік, які таксама з'яўляўся начальнікам упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання, абвінавачваецца ў атрыманні хабару ў 700 тыс. расейскіх рублёў, атрыманых за арганізацыю пастаўкі ў Беларусь буйной рагатай жывёлы з Сербіі на загадзя нявыгадных умовах. Пра гэта паведаміў аддзел інфармацыі і сувязі з грамадскасцю Следчага камітэта Беларусі, перадае «Інтэрфакс».***

Карупцыя ў Беларусі сустракаецца на розных узроўнях дзяржаўнага апарату. Пра гэта сьведчыць і перададзеная днямі ў суд справа былога першага намесьніка старшыні Шклоўскага райвыканкаму Дзьмітрыя Мінянкова, які абвінавачаны ў атрыманьні вялікага хабару. Прычым эпізод, які інкрымінуецца Мінянкову, таксама здарыўся тры гады таму, але толькі летась выклікаў цікаўнасьць сьледчых. Жыхар Шклова, намесьнік старшыні партыі БНФ Рыгор Кастусёў не выключае наступных прычын такой марудлівасьці:

«Мінянкоў жа амаль тры гады быў на волі. Відаць, хацелі справу замарудзіць, але тут умяшаліся расейскія сьледчыя, якія раскруцілі гэтую справу і наступілі на мазоль нашым чыноўнікам. У выніку адваротнага ходу ўжо не маглі даць і мусілі справу ўсё ж заводзіць».

Былы першы намесьнік старшыні Шклоўскага райвыканкаму Дзьмітры Мінянкоў паплаціўся пасадай за тое, што не адбылася зьдзелка па набыцьці ў Сэрбіі цялушак для жывёлагадоўчага комплексу ў вёсцы Дабрэйка. 17 мільярдаў беларускіх рублёў, атрыманых паводле дзяржпраграмы разьвіцьця жывёлагадоўлі, былі пералічаныя ў Сэрбію, аднак і грошы зьніклі, і цялушак адтуль гаспадарка не дачакалася. Спадар Кастусёў зьвяртае ўвагу, што гэтыя 17 мільярдаў пералічваліся яшчэ да інфляцыі 2011 году, то бок зьніклі больш як 5 мільёнаў даляраў. І «адкат» за іх, паводле зьвестак, быў ня меншы за 200 мільёнаў рублёў, то бок каля 70 тысяч даляраў. Рыгор Кастусёў адзначае яшчэ і такую дэталь: адразу пасьля скандалу спадара Мінянкова ня звольнілі з райвыканкаму:



«Што цікава, калі ўскрыліся гэтыя махінацыі, яго адразу ня звольнілі з райвыканкаму, а перавялі толькі ніжэй — на пасаду намесьніка кіраўніка толькі ўправы аграпраму па жывёлагадоўлі. І ён яшчэ працаваў доўгі час на гэтай пасадзе».

Паводле Рыгора Кастусёва, падобныя схемы махінацый з грашыма, якія выдзяляе дзяржава на разьвіцьцё сельскай гаспадаркі, — звычайная зьява ў рэгіёнах. І Шклоўшчына, радзіма Аляксандра Лукашэнкі, у гэтым сэнсе не выключэньне. Рыгор Кастусёў пералічыў шклоўскіх чыноўнікаў, якіх за некалькі мінулых гадоў пакаралі за карупцыю, але карупцыі ад гэтага меней ня стала:

Дырэктар жылкамгасу, які адседзеў, вярнуўся, уладкаваўся намесьнікам на водаканал — дык яго зноўку пасадзілі на 8 год

«Два начальнікі адседзелі, адзін пад сьледзтвам. Адзін павесіўся. А дырэктар жылкамгасу, які адседзеў, вярнуўся, уладкаваўся намесьнікам на водаканал — дык яго зноўку пасадзілі на 8 год».

Кандыдат эканамічных навук, былы гаспадарчы кіраўнік са Шклоўчыны Пётар Мігурскі мяркуе, што схема раскраданьня бюджэтных грошай, якую выкрылі ў іхнім раёне, пасьпяхова дзейнічае і ў іншых. Дзьмітрыю Мінянкову проста не пашанцавала, лічыць Пётар Мігурскі:

«Сёньня аловак нельга набыць, парушыўшы закон, а тут 4,2 мільёна эўра! У галаву не ўкладаецца! Сам Мінянкоў ня мог прыняць такое рашэньне, гэта адназначна. Ён ня мог выканаць гэтую працэдуру на пасадзе начальніка ўправы сельскай гаспадаркі. Тут адказнасьць значна большая. Гэта была апэрацыя па ўсёй Беларусі. А ў чым памыліўся Мінянкоў? Проста яны запусьцілі заробленыя грошы ў Расею, а менавіта там пачалі раскручваць махінацыі з нашымі грашыма. Толькі зьдзелка адбылася, а ён ужо паехаў на лепшым аўто. І ўсё ў раёне адразу загаварылі, што ўчора хадзіў у кітайскіх чаравіках, а сёньня езьдзіць на шыкоўным аўто».

Нагадаем, што змяніў Дзмітрыя Мінянкова на пасадзе першага намесніка старшыні Шклоўскага райвыканкама былы “бялыніцкі кадр” Леанід Засемчук.

***Па матэрыялах “Радыё “Свабода”***

# НАМ НУЖЕН МИТИНГ, А НЕ ПИАР

***Могилевские демократы подали заявку на проведение митинга протеста против роста цен, налогов, снижения жизненного уровня населения. Организаторами выступили В.Шанцев (ОГП), Д.Соловьев (БНФ) и Ю.Новиков (Свободный профсоюз).***

Обычно власть реагирует на подобные заявления одинаково – отказами. И это несмотря на то, что в соответствии с Конституцией нам гарантировано право на свободу в проведении митингов. Именно свободу проведения, а не на вольности власти в оказании препятствий для этого. И, в принципе, мы не должны оплачивать расходы на то, что предоставлено нам Конституцией. Власть же слово «свобода» трактует по-своему… И при этом не устает утверждать о том, что это мы нарушаем при подаче заявления законы, а для нас главное потом пропиариться.




Но нам нужен не пиар, а митинг – цены не растут, а скачут, власть же свои проблемы пытается решать за счет населения. Население, естественно, недовольно.

Поэтому в этот раз для подачи заявления на митинг потребовались дополнительные переговоры с властью. Дело в том, что соответствии с Постановлением Совета министров № 207 от 5 марта 2012 г., заявление о проведении массового мероприятия сначала нужно подавать в горисполком. А вот в соответствии с решениями Горисполкома сначала нужно заключить договор с милицией на охрану общественного порядка во время митинга, и только потом подавать заявлении в горисполком. И любые попытки посещения милиции на предмет заключения договора заканчиваются тем, что милиция отправляет в горисполком. Замкнутый круг.

В этот раз удалось договориться , как совместить эти два законодательных акта, хотя это должен был сделать горисполком самостоятельно.

Согласно поданному заявлению, мы рассчитываем провести митинг 25 января в 12-00 в разрешенном властями месте на стадионе Химик (ул. Челюскинцев 64в).

***Владимир Шанцев***

## МЕЧИСЛАВ ГРИБ: "ДЕПУТАТЫ" УЖЕ НАЗНАЧЕНЫ

***В местных советах будут исключительно ставленники режима. Такое мнение в интервью сайту charter97.org высказал председатель Верховного Совета 12 созыва, генерал-лейтенант милиции Мечислав Гриб.***

- На мой взгляд, в Беларуси мало что изменилось в местной власти с советских времен. Это значит, что если в советские времена местные советы практически не имели реальной власти, то не имеют ее и сейчас. Люди, как и раньше, не стремятся быть "депутатами" местных советов, они в этом никак не заинтересованы, - отметил политик.

Юрист добавил, что власть абсолютно не интересует, как пройдут "выборы".

- Она уже знает, что "депутатами" местных будут назначены те, на кого она укажет. Тем более, что на сегодняшний день отменили порог явки избирателей, а бойкот запрещен, явка избирателей не имеет никакого значения. Придет на участок 10 человек, 20 или 1000, все равно. "Выборы" будут считаться состоявшимися. К тому же мне кажется на большинстве округов выборы будут безальтернативными, - считает Мечислав Гриб.

Усе нумары газеты "Паходня можна прачытаць у інтэрнэце па адрасе: http://kamunikat.org/pachodnia.html

## НОВЫЕ ФОТОРАДАРЫ НАЧАЛИ ОХОТУ

В Могилевской области установлены новые фоторадары. Приборы привезли инспекторы ГАИ из Минска. Со 2 января началась фотоохота на лихачей, рассказал начальник межрайонного отделения ГАИ УВД Могилевского облисполкома Марат Чумаков.

Места дислокации радаров меняются ежедневно. В областном центре в районе автовокзала только за первые 6 часов работы приборов инспекторы получили 336 снимков. Информация хранится на ноутбуках, затем передается в объединенный компьютерный центр. Приборы работают в автоматическом режиме сразу в двух направлениях движения. И обмануть их невозможно, утверждает техник Центра фиксации правонарушений Василий Котяк, сообщает ТРК "Могилев".

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ЧАРГОВЫЯ ПРАФАНАЦЫІ БЕЛАРУСКАГА ЎРАДУ Ў СФЕРЫ ЖКГ

***У 2014 годзе ў Беларусі будзе рэалізавана маштабная работа па сістэмнаму рашэнню праблемных пытанняў у жыллёва-камунальнай гаспадарцы, выпрацоўцы і забяспячэнню рэалізацыі мераў, скіраваных на паляпшэнне стану спраў у гэтай сферы дзейнасці.***

Аб гэтым паведаміў прэм’ер-міністр М.Мясніковіч у час працоўнай паездкі ў Гродненскую вобласць 28 снежня 2013 года.




“Мы мяркуем, што неабходна здзейсніць пераход на планава-разліковыя кошты, каб арганізацыі жыллёва-камунальнай гаспадаркі працавалі як падрадчыкі ў адпаведных выканкамаў”, - паведаміў ён. Далей ён патлумачыў, што гэтае рашэнне абумоўлена тым, што арганізацыі, якія аказваюць жыллёва-камунальныя паслугі, павінны несці адказнасць за іх якасць. Падобныя захады, па словах Мясніковіча, дазволяць знізіць сабекошт жыллёва-камунальных паслугаў і павысіць іх якасць.

Для рашэння пастаўленых кіраўніком дзяржавы задач у Беларусі створана цэлая працоўная група пад кіраўніцтвам прэм’ер-міністра, у склад якой увайшлі кіраўнікі рэспубліканскіх органаў дзяржкіравання, аблвыканкамаў і Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта, а таксама кіраўнікі асобных арганізацый. Па выніках дзейнасці працоўнай групы праблемныя пытанні ЖКГ плануецца разгледзіць у маі 2014 года на нарадзе ў кіраўніка дзяржавы.

Чытаючы падобныя рапарты беларускага чынавенства, хацелася б спадзявацца, што і сапраўды, нарэшце, беларускія ўлады разбяруцца і навядуць парадак у сферы ЖКГ і зробяць усе неабходныя крокі для павышэння якасці паслугаў ЖКГ і паніжэння іх сабекошту, што станоўча адаб’ецца на лічбах у жыроўках па аплаце насельніцтвам гэтых паслугаў.

Але ўсе спадзяванні былі развеяны ў першы ж дзень новага года. Пастановай Савета Міністраў РБ №1166 ад 30 снежня 2013 года ў краіне павялічаны кошты для насельніцтва на газ, цеплавую і электрычную энэргію з 1 студзеня 2014 года.

А згодна з Указам №555 ад 5 снежня 2013 года кожны год пачынаючы з 1 студзеня 2014 г. кошты на ўсе жыллёва-камнальныя паслугі для насельніцтва будуць павышацца ў памеры эквівалентным 5 доларам ЗША. Паміма гэтага указам прадугледжваецца індэксацыя тарыфаў, не перавышаючая індэкса намінальнай заработнай платы ў РБ за папярэдні квартал.

Атрымалася так, што замест таго, каб спачатку разабрацца з праблемамі ў сферы ЖКГ, і кіраўнік дзяржавы, і Савет Міністраў, і нова створаная працоўная група пад выглядам павышэння пакрыцця насельніцтвам сабекошту паслугаў ЖКГ, проста зноўку пераклалі ўсе гэтыя праблемы на плечы сваіх грамадзянаў.

А разбірацца ёсць у чым. Бо нават падыходы ў разліках памераў пакрыцця насельніцтвам сабекошту камунальных паслугаў ў прадстаўнікоў беларускіх уладаў розныя. Ад 60 да 70% - па разліках кіраўніка дзяржавы, і 18 -20% - міністра ЖКГ.

Праводзячы чарговае павышэнне коштаў, беларускія ўлады зноўку ўмела скарыстоўваюць свой пастаянны “козыр” аб значнай розніцы ў аплаце камунальных паслугаў на карысць беларускіх грамадзян у параўнанні з іншымі краінамі.

Але паспрабуем разабрацца, ці атрымліваюць грамадзяне Беларусі тыя паслугі за якія яны плоцяць грошы, не кажучы ўжо пра якасць аказваемых ім паслугаў. Нашыя людзі проста звыкліся са склаўшымся станам рэчаў і ў значнай бальшыні сваёй аўтаматычна аплочваюць атрыманыя жыроўкі, не задумваючыся аб тым, што яны аплочваюць.

Напрыклад, па норме тэхнічнага абслугоўвання жыхары аплочваюць:

- наяўнасць на дваравой тэрыторыі гаспадарчай пляцоўкі для сушкі бялізны,

чысткі адзення, пляцоўкі для адпачынку дарослых і дзіцячай гульнявой пляцоўкі, спартыўнай пляцоўкі з неабходным абсталяваннем, пляцоўкі для выгула жывел, пляцоўкі для смеццевых кантэйнераў;

- прыбіранне месцаў агульнага карыстання і прыдамавой тэрыторыі, вывазку смецця:

* вільготнае падмятанне і мыццё лесвічных пляцовак і маршаў ніжэй трох паверхаў – кожны дзень;

* вільготнае падмятанне лесвічных пляцовак і маршаў вышэй трох паверхаў – тры разы на тыдзень;

* мыццё лесвічных пляцовак і маршаў вышэй трох паверхаў – два разы ў месяц;

* абмятанне пылу са столяў і мыццё вакон у месцах агульнага карыстання – два разы ў год;

* пылаўборку і дэзінфекцыю тэхнічнага паверху – не радзей аднаго раза у год;

*(Заканчэнне на стар. 7)*

# ЧАРГОВЫЯ ПРАФАНАЦЫІ БЕЛАРУСКАГА ЎРАДУ Ў СФЕРЫ ЖКГ

*(Заканч. Пачатак на стар. 6)*

* пылаўборку і дэзінфекцыю вентыляцыйных каналаў – не радзей аднаго раза у тры гады;

* вывазку бытавых адыходаў не радзей аднаго раза ў тры дні пры тэмпературы да +14, а пры тэмпературы вышэй +14 – кожны дзень;

- тэмпература у лесвічных клетках павінна падтрымлівацца не ніжэй +12;

- тэмпература на тэхнічным паверсе – не ніжэй +10;

і т.д.

Згодна “Правілаў і нормаў утрымання жылых дамоў у гарадах і пасёлках” усталяваны пэўныя тэрміны эксплуатацыі да пастаноўкі дамоў, або іх элементаў на капітальны рамонт.

Да прыкладу:

- для дахаў з ацынкаванай сталі – 15 год;

- для дахаў з чорнай сталі – 10 год;

- для дахаў з рулонных матэрыялаў – 10 год;

- для дахаў з шыфера – 30 год;

- трубаправодаў халоднай вады з ацынкаванай сталі – 30 год;

- трубаправодаў халоднай вады з чорнай сталі – 15 год;

- трубаправодаў ацяплення (стаякі) – 30 год;

- асфальтаванае пакрыццё пад’ездаў, тратуараў, адмостак – 10 год;

і т.д.

Можна ўпэўнена сцвярджаць, што ў большыні дамоў нашых гарадоў і пасёлкаў нават і блізка не выконваецца па тэрмінах і якасці пералічаны аб’ём паслугаў, не кажучы пра іншыя.

Чаму ж так склалася, што нашыя людзі паслухмяна аплочваюць не атрыманыя паслугі ЖКГ, у той час як гэтага яны не дапускаюць у іншых месцах, напрыклад, у цырульні, доме быту, рэстаране, магазіне?

Асноўная прычына крыецца ў тым, што нашыя грамадзяне да гэтай пары не сталі сапраўднымі гаспадарамі свайго жылля, нягледзечы на павальную прыватызацыю. Як у часы Савецкага Саюза, та і ў незалежнай Беларусі, уладамі ўсяляк насаджаецца сваім грамадзянам меркаванне, што іх жыллё – гэта “дабрачыннасць” улады. І за гэтую “дабрачыннасць” улады патрабуюць паслухмянасці.




Нажаль, мала хто задумваецца, а куды ж расходваюцца грошы, сабраныя з грамадзян тых дамоў, дзе пад’езды прыбіраюцца самымі жыхарамі, дзе дзесяткамі год не праводзіліся рамонты агульных месц карыстання, дзе адсутнічаюць на прыдамавых тэрыторыях усялякія пляцоўкі…

Бо згодна беларускага заканадаўства, чыноўнікі могуць расходваць фінансавыя сродкі толькі мэтанакіравана. Расходванне мэтанакіраваных сродкаў на іншыя рэчы не дапускаецца і караецца законам.

Выходзіць, што сродкі сабраныя з жыхароў на тэхнічнае абслугоўванне і бягучы рамонт выдаюцца на заробак не існуючым работнікам, спісваюцца на матэрыялы, што не давезены да пад’ездаў…

Нават правёўшы масавую прыватызацыю жылога фонду (прыватызавана каля 85% жылля) і зняўшы з сябе адказнасць за капітальны рамонт кватэр, рэгулярна збіраючы фінансавыя сродкі з насельніцтва, беларускія ўлады поўнасцю правальваюць капітальны рамонт жылога фонду. Адставанне на сённяшні дзень пры існуючых тэмпах і аб’ёмах рамонта складае каля 200 год.

Ужо сёння можна смела прагназаваць, што чарговыя “патугі” беларускіх уладаў па “сістэмнаму рашэнню праблемных пытанняў у жыллёва-камунальнай гаспадарцы, выпрацоўцы і забяспячэнню рэалізацыі мераў, скіраваных на паляпшэнне стану спраў у гэтай сферы дзейнасці” так і застануцца прафанацыямі на паперы. Бо замест правядзення рэформаў, гэтыя праблемы яны зноўку перакладваюць на плечы сваіх грамадзян.

А з даклада прэм’ер-міністра Мясніковіча, як кіраўніка працоўнай групы па праблемных пытаннях ЖКГ, на прадстаячай у маі месяцы 2014 года нарадзе, атрымаецца чарговы “пшык”.

**_Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў_**

# АКТИВИСТЫ «ГОВОРИ ПРАВДУ» ДОБИВАЮТСЯ БЕЗОПАСНОСТИ ДЛЯ ЖИЗНИ ДЕТЕЙ

***В городском посёлке Белыничи местные активисты кампании «Говори правду» начали сбор подписей под коллективным обращением граждан к председателю Белыничского райисполкома Николаю Кодатенко.***

Активисты обращаются к Николаю Михайловичу с просьбой оборудовать наиболее оживлённые участки улицы Мичурина в Белыничах двумя светофорами в тех местах, где дети постоянно переходят улицу по дороге в школу и детский сад, и возвращаются домой из учреждений образования.

Также в обращении поднимается вопрос об оборудовании тротуаром оживлённого участка улицы Якубовского в Белыничах, где тротуар отсутствует до сих пор, что создаёт большие трудности для передвигающихся по улице людей.

Инициатор написания обращения, белыничский активист «Говори правду» Пётр Шимбалёв не понаслышке знает, какие трудности создаёт отсутствие светофоров и тротуара в местах с оживлённым движением автотранспорта.



- Я сам отец троих детей, поэтому хорошо знаю, сколько опасностей подстерегает детей в Белыничах по дороге в школу, детский сад и обратно, — говорит Пётр Шимбалёв. – Постоянно об этом говорят и многие мои знакомые родители учеников школы №2 и воспитанников детского сада №7.

К сожалению, белыничские власти существующей проблемы почему-то не замечают, хотя в указанных местах многократно совершались наезды на пешеходов.

Думаю, коллективное обращение граждан всё-таки заставит чиновников прислушаться к мнению белыничан. Свои подписи под обращением люди ставят охотно, ведь проблема является действительно актуальной для жителей городского посёлка.

***Ирина Беганкина***

## В Круглянском районе построят солнечную электростанцию

В Круглянском районе Могилевской области, в районе деревни Улужье, в рамках программы развития альтернативной энергетики, частное предприятие «КвадроКомМодуль» планирует построить солнечную модульную электростанцию мощностью 1263 МВт. Об этом сообщили в комитете экономики Могилевского облисполкома.

В ходе реализации инвестпроекта будет создано 5 новых рабочих мест. Производимую электроэнергию предприятие планирует поставлять в государственную энергосистему

## СКОЛЬКО В БЕЛАРУСИ ЗЭКОВ

По состоянию на 1 мая 2013 г. общая численность осужденных и граждан в учреждениях УИС Республики Беларусь составляла 37 270 человек, из них:

- в исправительных колониях — 22 689,
- в исправительных колониях-поселениях — 503,
- в воспитательных колониях — 174,
- в СИЗО и тюрьмах — 6241, из них 539 осужденных к тюремному режиму.
- в арестных домах — 1596 (в том числе на базе СИЗО — 915, на базе ИК — 681).

## ДЗЕТАК УСЁ МЕНШ

Па інфармацыі раённага аддзела ЗАГС у 2013 годзе ў Бялыніцкім раёне нарадзілася 236 дзяцей, гэта на 17 менш, чым у 2012 годзе.

За мінулы год ў Прыдруцкім краі на свет з'явіліся тры пары двайнят. З іх дзве пары хлопчыкаў і адна пара дзяўчынак. Шчаслівымі бацькамі сталі сем'і Пухоўскіх, Пратасевіч і Лапо з Бялынічаў.

На працягу мінулага года зарэгістравана 170 шлюбаў, у 2012 годзе вузамі Гіменэя сябе звязалі 162 пары.

Летась скасавана 70 шлюбаў, у 2012 годзе - 89.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 17.01. 2014 г. у 10-00.